


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 снежня 2003 года

№ 51 (452)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

17 каналаў Тэлетыдзень

*Усіх хрысціян, якія святкуюць Каляды 25 снежня, віншуем з надыходзячым святам. Жадаем шчасця, здароўя, здзяйснення мар і надзей.*

*"Рэгіянальная газета"*

## Навіны рэгіёну

### Закрылася школа

**ВАЛОЖЫН.** З 1 снежня перастала існаваць Міхалоўская пачатковая школа. 10 яе вучняў будуць цяпер наведваць Ракаўскую сярэднюю. Раённы аддзел адукацыі купіў для школы новы аўтобус "ПАЗ" на 25 месцаў, якім будуць падвозіць дзяцей.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### «Папаўся»...

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адзін з начальнікаў аддзелаў завода металаканструкцый «папаўся» на крадзяжы.

Ён выкраў дэталі, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы, з вылічальных комплексаў. Потым прадаў іх каўказцам, а на выручку, прыкладна ў 2 тысячы долараў, купіў сабе аўтамабіль. Узбуджана крымінальная справа, якой займаецца следчы Анатоль Гарабец.

**Ірына РАБУШКА.**

### На адпачынак — з Расіі

**МЯДЗЕЛ.** У гэтыя дні ў нацыянальным дзіцячым аздараўленчым лагеры «Зубраня» адпачываюць 320 піянераў. Тут правялі злёт арганізацыі, на які прыехалі і некалькі дзесяткаў дзяцей з Расіі - Арлоўскай, Курскай і іншых абласцей.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Храм для пагранічнікаў

**СМАРГОНЬ.** Урачыста адкрыўся новы храм для пагранічнікаў, дзе прайшла першая служба. Драўляная царква з медным купалам атрымала назву Святога Міхаіла Архангела — заступніка воінаў. Яе пабудавалі крыху больш чым за паўгода. Айцец Валянцін плануе праводзіць тут службу два разы на тыдзень.

**Галіна АНТОНАВА.**

### Спрацавалі добра

**ВІЛЕЙКА.** Адным з лепшых сельсаветаў раёна па рабоце з насельніцтвам прызнаны Касцяневіцкі. А Людвіноўская сярэдняя школа і фельчарска-акушэрскі пункт, якія знаходзяцца на яго тэрыторыі, першыя ў раёне і вобласці адпаведна.

**Ірына РАБУШКА.**

# Елка стане гараджанкай



Ляснік Франц Лукашэвіч і памочнік ляснічага Лебедзеўскага лясгаса Віталь Дземеш ля елкі, якой суджана ўпрыгожыць Цэнтральную плошчу горада.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Галоўная гарадская ёлка, што будзе ўпрыгожваць Цэнтральную плошчу Маладзечна ўсе навагоднія святы, вырасла ў Лебедзеўскім лясніцтве.**

Журналістам "Рэгіянальнай газеты" пашанцавала. Мы першымі ўбачылі і сфатаграфавалі прыгажуню, якой суджана сёлета стаяць на Цэнтральнай плошчы горада. Адбылося гэта раніцай у сераду, акурат за дзень да візіту прадстаўнікоў "Камунальніка", якія павінны былі ссекчы яе і даставіць лесавозам у горад.

Ехалі палявой дарогай, затым – добры кіламетр ішлі пешшу, пакуль не апынуліся, дзякуючы нашаму праважатаму, памочніку ляснічага Лебедзеўскага лясніцтва Віталю Дземешу, на прыгожай заснежанай паляне. Густая, конусападобная елка, верхавіна якой цягнулася высока ўгору, стаяла ў яе цэнтры. А кашлатыя, цёмна-зялёныя лапкі, у серабрыстым мроіве мяцеліцы, яшчэ раз падкрэслівалі яе статнасць і гаварылі пра веліччнасць.

Вырасла прыгажуня на тэрыторыі ўладанняў лесніка **Франца Лукашэвіча**. "Елка, — расказвае мужчына, — мая равесніца. Каб вымахаць у вышыню на 30 метраў, ёй спатрэбілася не меш 50-ці гадоў".

Атрыбут навагодняга свята расце марудна. За пяць гадоў дрэўца падымаецца ад зямлі толькі на метр. Каб дасягнуць у вышыню двух – неабходна сем гадоў.

"Колькі б эколагі не схілялі народ да штучных ялінак, — разважае памочнік ляснічага Віталь Дземеш, — большасць усё адно аддае перавагу натуральным. Толькі наша Лебедзеўскае лясніцтва, якое гандлявала летась на Цэнтральнай плошчы Маладзечна, рэалізавала каля двух тысяч дрэўцаў. А яшчэ ж працавалі нашы калегі з Гарадоцкага, Красненскага, Маладзечанскага, Радашкавіцкага лясніцтваў, і амаль што ніхто з іх не паехаў дадому з нерэалізаваным таварам".

З перспектывай на будучыню ў Лебедзеўскім лясніцтве пасадзілі сёлета спецыяльную плантацыю навагодніх ёлачак, тэрыторыю пад якую адвялі зноў жа ў абходзе Франца Лукашэвіча. Праз пяць гадоў яны ўпрыгожаць нашы з вамі кватэры і дамы.

Любоў да лесу, да прыроды ў Франца — з дзяцінства. Можа, таму, што вырас у лясной вёсачцы Мікулеўшчына на Смаргоншчыне. Амаль што ўсе мужчыны ў іх населеным пункце былі леснікамі, а дзеці змалку ведалі, як правільна садзіць дрэвы і даглядаць іх.

Пасля школы ён паступіў у тэхнікум, стаў ветэрынарам і нават дарос да начальніка жывёлагадоўчага комплексу. А разменяўшы чацвёрты дзесятак, узяў ды пакінуў калгасную работу, каб уліцца ў калектыў Лебедзеўскага лясніцтва. Кажа, што сярод прыроды не сумуе. Бо даўно ўжо зразумеў, што лес – яго лёс.

**Марына СЛІЖ.**

### Малююць дзеці



У Маладзечанскім музычным вучылішчы адкрылася выстава дзіцячай графікі, якую прывезлі з Дзяржынска.

2-я старонка

### Новы начальнік міліцыі



У Маладзечанскім ГРАУС – змены. На пасаду начальніка назначаны Віталь Дзмітрыеў.

5-я старонка

### Нашы – на «Полі цудаў»

Жыхарка Смаргоні Наталля Сямёнава стала ўдзельніцай праграмы "Поле цудаў".

8-я старонка

# Жыллё дзешавець не будзе

**СМАРГОНЬ. Згодна з рэспубліканскай статыстыкай, сёння ў рэспубліцы налічваецца больш за 600 тысяч гараджан, якія афіцыйна маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў (у Смаргоні такіх налічваецца каля 1500 чалавек). Колькі рэальных беларусаў, для якіх жыллёвая праблема з'яўляецца пытаннем №1, нават цяжка сказаць. Ужо традыцыйным стаў той факт, што ў апошнія месяцы года актыўнасць нашых "бескватэрных" суайчыннікаў у пакупцы жылля бачна ўзрастае. Не дзіва, што цэны на квадратныя метры зімой таксама не стаяць на месцы.**

Эксперты рынку жылля тлумачаць гэтае падаражанне тым, што попыт на кватэры сёння ў 2-3 разы перавышае прапанову. Як і раней, найбольшай папулярнасцю ў пакупнікоў карыстаюцца 1- і 2-пакаёвыя кватэры.

**Кошт кватэры ў Смаргоні**

**аднапакаёвая кватэра**
- вясна **3,5 – 5,5** тысячы долараў
- зіма **5,5 – 7** тысяч долараў

**двухпакаёвая кватэра**
- вясна **5,5 – 7** тысяч долараў
- зіма **7,5 – 11** тысяч долараў

Сёння кошт аднапакаёвай кватэры ў Смаргоні складае 5,5-7 тысяч долараў. Для параўнання: яшчэ гэтай вясной аднапакаёвая кватэра ў гэтым горадзе каштавала 3,5-5,5 тысячы долараў. Варта сказаць, што попыт на аднапакаёвыя кватэры вялікі, але на продаж яны практычна не выстаўляюцца. А калі і знаходзяцца такія прадаўцы, то не паспееш і вокам міргнуць – і кватэра ўжо прададзеная.

Што тычыцца двухпакаёвак, то сярэдняя цана на іх сёння вагаецца ад 7,5 да 11 тысяч долараў. Паўгода назад гэтыя лічбы складалі 5,5-7 тысяч "зялёных". Як паказвае аналіз сітуацыі на рынку, розніца ў цане на 2- і 3-пакаёвыя кватэры складае ўсяго ад некалькіх соцень да тысячы долараў. Важнымі фактарамі, якія непасрэдна ўплываюць на кошт жылля, з'яўляюцца раён горада (кватэра ў аддаленым мікраараёне Карані абыдзецца пакупніку на 1-1,5 долара менш, чым, скажам, у мікраараёне Усходні ці ў цэнтры горада), стан кватэры, размяшчэнне ў доме (як заўсёды, не каціруюцца першы і апошні паверхі), узрост дома. Варта таксама адзначыць, што ўсё большай папулярнасцю ў смаргонцаў стала карыстацца набыццё асобных пакояў у 2-3-пакаёвых кватэрах. Такая пакупка абыходзіцца пакупніку дзешавей, чым набыццё асобнай кватэры.

Так, напрыклад, два пакоі ў 3-пакаёвай кватэры сёння каштуюць 4 тысячы долараў. А там, глядзіш, грошы і на астатнія метры знойдуцца.

Як будуць весці сябе цэны на жыллё ў бліжэйшыя месяцы? Сёння большасць спецыялістаў рынку нерухомасці лічыць, што цяперашняе падаражанне пратрымаецца да вясны. Гэтыя ж самыя спецыялісты адзначаюць, што пры пакупцы ўласнага жылля навасёпечаныя гаспадары ў большасці разлічваюць на крэдытную падтрымку банкаў. Так, сёлета за 11 з паловай месяцаў крэдытам "Беларусбанка" на пакупку жылля скарысталіся 168 чалавек, у 2002 годзе – 36. Як правіла, грашовыя крэдыты бяруцца смаргонцамі ў замежнай валюце.

Ці можна спадзявацца на стабілізацыю ці падзенне цэн на нерухомасць – аб гэтым замоўчваюць нават самыя прафесійныя эксперты.

**Ірына ЛУГІНА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 11.12 руб. | 18.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2148,00 | 2151,00 |
| Еўра | 2618,63 | 2654,23 |
| Злоты | 563,48 | 571,39 |
| Літ | 758,53 | 768,41 |
| Расійскі рубель | 72,72 | 73,54 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2145/2165 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 10.12 | 17.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13740 | 13740 |
| Сасіскі, 1 кг | 4690 | 4690 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1450 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 550 | 540 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 850 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 160 | 180 |
| Морква, 1 кг | 400 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2750 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 2100 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 1000 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2300 | 2100 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2400 | 2500 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

БАРЫС КІТ
Запіс Васіля БЫКАВА

# Цярновы шлях

**“Рэгіянальная газета“ завяршае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Ад самага пачатку я стаяў і стаю за сапраўдную і поўную незалежнасьць Беларусі. Тое засьведчана ва ўсіх кнігах пра мяне, у юбілейным альбоме таксама. Ва ўсе часы я змагаўся за вольную Беларусь, бо той стан ёсьць натуральны для кожнага разьвітога народу. За гэта стаіць увесь дэмакратычны сьвет, аснову якога зараз і складаюць незалежныя краіны і нацыі. А паяднаньне з Расеяй ёсьць найгоршае наша няшчасьце. Ніякага паяднаньня ня можа быць. Саюз - калі ласка, як гэта нярэдка робіцца паміж цывілізаванымі дзяржавамі. Паяднаньне ж ёсьць паглынаньне Беларусі. Я думаю, што пры ўсім, што зараз ёсьць, яна цалкам можа разьлічваць на ажыцьцяўленьне рэальнай незалежнасьці. Хаця ў нас нямала і старых людзей зь іх састарэлымі комплексамі, выпрацаванымі падчас Савецкага Саюзу. Але ж нават Афрыка мае сёньня пад сотню незалежных дзяржаваў, якім ніхто не дыктуе чужую волю. Беларусь мае даўнюю, самакаштоўную культуру з часоў ВКЛ - гэтай садружнасьці трох народаў з тэрыторыяй ад Балтыйскага да Чорнага мора. І ў той дзяржаве беларуская культура, і асабліва мова, былі агульнымі для ўсіх, бо былі найбольш высокаразьвітыя. Пра тое красамоўна сьведчыць Статут ВКЛ. Але так сталася, што меншая частка таго княства Жмудзь пераняла яго агульную назву, а большая засталася пры іншай назове, што ўнесла блытаніну ў пазьнейшую гісторыю ВКЛ. Першай сталіцай ВКЛ быў Наваградак, сучасны і слынны беларускі горад, дзе сёньня я ганаровы грамадзянін, што ёсьць найбольшы для мяне гонар.


Барыс Кіт

Сёньня найбольшая мая надзея на моладзь. Увогуле ўсе прагрэсіўныя працэсы, што адбываліся ў розных дзяржавах, рабіліся пераважна рукамі маладых! І я цешуся, што ў нас такая нацыянальна сьвядомая моладзь. Яна возьме ў рукі ўсё і найперш — лёс краіны. Я б толькі хацеў параіць ёй: вучыцца! І абавязкова ў беларускамоўных школах, на сваёй роднай мове.

Беларускім прэзідэнтам я хацеў бы бачыць шчырага беларускага патрыёта і дэмакрата, які сябраваў бы з дэмакратычным Захадам, спрыяў разьвіцьцю рынкавай эканомікі і нацыянальнай культуры, каб дамагчыся стану, які ёсьць на Захадзе. Каб палагодзіў сяброўскія адносіны з усімі краінамі сьвету.

А першай сяброўкай Беларусі павінна стаць Амэрыка. Яна болей за іншых здатная, каб дапамагчы Беларусі вылезьці з той ямы, куды яна трапіла. Так, як гэта зрабіла Амэрыка для Нямеччыны, для Эўропы цалкам. Амэрыка мае для таго ня толькі матэрыяльныя магчымасьці, але і свае даўнія дэмакратычныя традыцыі. Яна ніколі нічога ня мела супраць Беларусі, заўжды падтрымлівала дэмакратычны лад ва ўсіх краінах, змагалася з сусьветным таталітарызмам. XX стагодзьдзе стала стагодзьдзем Амэрыкі. Нядаўна яшчэ страшэнныя яе ворагі Нямеччына і Японія зь яе дапамогай сталі самымі разьвітымі і дэмакратычнымі краінамі сьвету. Амэрыка - апірышча дэмакратыі, і яна несумненна дапаможа Беларусі, ад якой належыць толькі прыняць тую дапамогу. Але каб зрабіць тое, Беларусі трэба адхрысьціцца ад яе чэкісцка-камуністычнага мінулага. Што ў дадзеных варунках, на вялікі мой жаль, сумніўна.

Хай жыве Беларусь!

## Аб аўтару запісаў Кіта Васілю Быкаву

**Нарадзіўся Васіль Быкаў 19 чэрвеня 1924 года ў в.Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Вучыўся на скульптурным аддзяленні Віцебскага мастацкага вучылішча (1939-1940). Служыў у Чырвонай Арміі (з лета 1942). З дзеючай арміяй прайшоў па Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі. Дэмабілізаваны ў 1947 годзе. Працаваў ў Гродне. Друкуецца з 1947 года. У 1972-1978 гадах – сакратар Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Вясной 1989 года выбарны дэпутатам з’езда народных дэпутатаў СССР. У 1990-1993 гадах – прэзідэнт згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. У канцы 1997 года пакінуў Беларусь. Спачатку па запрашэнні ПЭН-цэнтра Фінляндыі пражываў у ваколіцах Хельсінкі, затым атрымаў запрашэнне ПЭН-цэнтра ФРГ і пераехаў у Германію. Памёр вясной 2003 года, вярнуўшыся на Беларусь.**



■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Нас могуць закадзіраваць

**Дастаткова разгарнуць любую газету, і можна знайсці аб’яву аб кадзіраванні (біялагічным, блочным, кароткатэрміновым і доўгатэрміновым, падшыўцы і іголкатэрапіі і г.д.). Попыт нараджае прапанову. А попыту хапае.**

Трэба ведаць біялогію, каб зразумець, чаму людзі п’юць і п’юць рэгулярна. Сам арганізм выпрацоўвае алкаголь (у малых дозах), ён патрэбен для работы мазжачка аддзела галаўнога мозга, які адказвае за каардынацыю руху. Калі чалавек рэгулярна ўжывае алкаголь, арганізм перастае яго выпрацоўваць, ён бярэ яго гатовы. А калі чалавек кідае піць, “хітры арганізм” пасылае з падсвядомасці сігнал: “мне патрэбен алкаголь”. І вось рука супраць волі цягнецца за чаркай.


“Зялёны змей” можа закруціць кожнага. А вось пазбавіцца ад алкагольнай залежнасці пад сілу не ўсім.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Адзін з відаў кадзіравання – блакіроўка гэтага сігналу. Калі чалавек паддаецца кадзіраванню (бо паддаюцца толькі лёгкаўнушальныя асобы) і перастае піць, арганізм паступова пачынае, як і раней, выпрацоўваць алкаголь. А вось некалькі прыкладаў натуральнага кадзіравання. Успамінае Змітрок Бядуля.

“Здарылася сёлета, што даў я майму таварышу ў мястэчка Вязынь (Вялейск. пав.) некалькі нумароў газэты “Наша Ніва”. Праз колькі тыдняў ізноў мы ўбачыліся, ажно ён просіць яшчэ газэты. Аказалася, што ён іх даў аднаму граматнаму штырніку, каторы ганяе платы на Нёмане ў Коўну і Вільню (на самой справе па Нёману ў Вільню платы не ганялі, бо Нёман зліваецца з Віліяй у Коўне. У Вільню платы ганялі па Віліі, якая цячэ праз горад. З. Бядуля памыліўся. І.Кіцікаў.) Гэты чалавек, сабраўшы сваю хэўру штырнікаў – каля 30 чалавек, уночы на беразе ракі, ля вогнішча чытаў ім “Н.Н.” – “Шмат гарэлкі, — казаў ён, — выпілі б яны за гэтую пару, але знайшлося лякарства!..”

Чым не кароткатэрміновае кадзіраванне. І яшчэ выпадак. Паехалі мужык з жонкай ў вёску на вяселле. Вася, які любіў гарэлку болей, чым жонку, пасля другога літра заснуў за сталом. Каб ён сваім храпам не перашкаджаў гасцям святкаваць вяселле, яго аднеслі ў сад пад грушу. Калі сцямнела, Васіль прыбег у хату моцна спалоханы. На прапанову выпіць адмовіў і вачамі знайшоў абразы, аб нечым доўга маліўся. Прайшоў год, а мужык ні разу не выпіў! І нават пачаў хадзіць у царкву. А аднойчы расказаў, што ў садзе яго разбудзіў д’ябал, рагаты, з барадой і ад якога ішоў страшэнны смурод. Мужчына падумаў, што ўжо памёр і за свае грахі аказаўся ў пекле, стаў моцна маліцца і пабег, а калі дабраўся да вяселля, зразумеў, што бог даў яму другі шанц. Пасля гэтай размовы жонка паехала на госці ў вёску, дзе гулялі вяселле, і паведаміла сваячніцы пра выпадак з мужам. Тая пасмяялася і расказала, што гэта не д’ябал, а суседскі чорны казёл, які час ад часу ходзіць у іхні агарод падсілкавацца. Вось вам і доўгатэрміновае кадзіраванне.

Цяпер у INTERNET з’явіўся артыкул пра адну расійска-амерыканскую кампанію, якой кіруе І.С. Што робіцца на “кухні І.С.”, дакладна ніхто не ведае. Але ж па чутках ён распрацоўвае глабальны псіхаэкалагічны праект, звязаны са “зніжэннем сацыяльнай напругі”. Тэхналогіі робяцца спецыяльна для радыё і тэлебачання. Словы вядучых будуць суправаждацца відыё– і аўдыёсігналамі, якія не будуць адчувацца аўдыторыяй (нешта накшталт 25–га кадра). Гэтыя сігналы дапамогуць ліквідаваць праблемы, звязаныя з наркаманіяй, алкагалізмам і тытунекурэннем. Такім чынам, у хуткім часе нас усіх могуць закадзіраваць, і мы аб гэтым не будзем ведаць.



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

■ ЗНАЁМЦЕСЯ — КІЯСКЁР

# Загадкавая жанчына

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіяскёр Ларыса Гурыновіч, якая працуе ў шапіку «Саюздруку» на аўтавакзале, верыць толькі ў сябе. І ні аб чым не марыць.**

Для Ларысы кіёск стаў другім маленькім домам, дзе яна працуе зранку да вечара дванаццаты год. Тут і ёлачку навагоднюю ўжо ўпрыгожыла рознакаляровымі шарыкамі. Дарэчы, да Новага года засталося 13 дзён. Але жанчына яго не чакае. Бо заўсёды шкадуе старыя.

— Нават, калі ён быў дрэнны? — перапытваюся ў яе.

— Так. Невядома ж які наступны. Раптам яшчэ горшы.

Можа, Ларыса і правільна мяркуе. Але ж таптацца на адным месцы таксама не цікава. І нават, калі год не вельмі ўдалы, трэба яго перажыць і не зламацца. Нездарма ж кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло.


Кіяскёр Ларыса Гурыновіч працуе ў шапіку “Саюздруку” на аўтавакзале.

Фота Марыны СЛІЖ.

Удвая лягчэй жыць, калі ў цябе ёсць любімая справа ці занятак, як у Ларысы. Больш за ўсё ёй падабаецца працаваць з людзьмі, прадаваць газеты і гатаваць, асабліва пячы мядовы пірог. Яго з асалодай смакуе 10-гадовы сын Уладзік. Разам з мамай хлопец любіць і маляваць. Нядаўна на паперы казка пра дзікіх лебедзяў атрымалася. Пра гэтых птушак, канешне, не вельмі добра напісана ў кніжцы. Але чамусьці мне падумалася пра вернасць лебядзяў, аб якой можна толькі марыць.

— А ў вас ёсць мара?

— Не, — адказвае Ларыса. – І нікому, акрамя сябе, не давяраю.

— Тады, напэўна, вам хочацца што-небудзь змяніць у жыцці.

— Ды не. Са знешнасцю ў мяне ўсё добра. Характар таксама нармальны. Калі толькі крыху запальчывая. Дык з гэтым змагаюся.

Я ўжо і разгубілася, аб чым пытацца ў гэтай загадкавай жанчыны і як яе разгадаць: усё не ды не. Нарэшце даведалася, што яна не супраць знайсці кашалёк поўны-поўны грошай і хоча, каб хутчэй прыйшла вясна. Яна абавязкова прыйдзе. Галоўнае, сонейка і цеплыня ў душы, тады і кашалёк знойдзецца.

Ірына РАБУШКА.

■ ШКОЛА ЛЕПШАГА ЖЫЦЦЯ

# Па-гаспадарску

**ВІЛЕЙКА. Здавалася б, усё ў Вілейскім раёне гэтак, як і па ўсёй краіне. Не горш, не лепш. Тыя ж клопаты ў вяскоўцаў, што і ў іншых рэгіёнах. Тыя ж праблемы і ў самой Вілейцы, што і ў жыхароў іншых малых гарадоў краіны. Але ёсць і свае адметнасці, свае адрозненні, якія нельга не заўважыць. Раён і горад традыцыйна вызначаюцца, як рэгіён, дзе ўмеюць эканоміць і граматна выкарыстоўваць энергетычныя рэсурсы. І нават, было і такое, адзначаюць прэміямі. А Мінскі абласны камітэт па энергазберажэнні, маючы такую магчымасць, накіроўвае ў Вілейскі раён свае і чужыя грашовыя рэсурсы.**



Сяргей Міргалоўскі, сённяшні дырэктар УП "Даўгінава" (справа), ведае цану сялянскай працы.
Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

"Даўгінава", учора яшчэ саўгас, а сёння унітарнае прадпрыемства, займаецца традыцыйнай для сельгаспрадпрыемстваў справай. Раслінаводства, жывёлагадоўля... Хіба што на вырошчванні, на гадоўлі свінняў некалькі большы акцэнт, чым у другіх. Але ёсць чаму ў "даўгінаўцаў" і павучыцца. Сёлета, думаючы, як выратаваць збожжа ў дажджлівае лета, яны купілі новую сушылку. Пакупка абышлася ў 45 мільёнаў рублёў. 70% затрат узяў на сябе камітэт па энергазабеспячэнні, 30 — сама гаспадарка. Але кіраўнік прадпрыемства **Сяргей Міргалоўскі** сёння гаворыць, што ў любым выпадку сушылку набывалі б. Нават пры ўмове, што давялося б у пазыкі лезці. Сушылка, якая працуе на дровах, за сезон ужо акупілася. Па-першае, у параўнанні са старой польскай, якая "з'ядала" 4 тоны дызельнага паліва ў суткі, адрозніваецца большай эфектыўнасцю. Па-другое, значная эканомія адбываецца і за кошт выкарыстання дроў. Гэтым летам сушылі збожжа недзе каля 30 дзён. Калі б карысталіся дызпалівам, то затраты на яго закупку склалі б як мінімум 75 мільёнаў рублёў. А за лес, што гаспадарка набыла ў лясгасе, што называецца, "на карані", заплацілі 1 мільён рублёў. Яшчэ 1 мільён – транспартныя затраты, заработная плата для тых, хто нарыхтоўвае дровы. На жаль, не ў кожнай гаспадаркі ёсць сёння "лішніх" 75 мільёнаў на набыццё новай сушылкі. Не кожнай гаспадарцы дапаможа і абласны камітэт па энергазберажэнні. Не кожнаму яшчэ і таму, што пазіцыю яго кіраўніцтва займае наступную: дапамагаць варта тым, хто і сам спрабуе нешта зрабіць. Пазбаўленыя ініцыятывы, няхай самі шукаюць грошы, няхай працуюць на тэхналогіях затратных. Яшчэ ёсць адна праблема. Новыя — для дроў прыстасаваныя зернесушылкі – вырабляе прадпрыемства не супервялікае, якое не можа забяспечыць адразу ўсе гаспадаркі краіны, а "Амкадор-Можа" – усяго толькі ўчарашняя крупская райсельгастэхніка.

Адной зернесушылкай ў "Даўгінаве" энергазберагаючыя праекты не абмяжоўваюцца. Купілі ў гаспадарку і машыну першаснай ачысткі збожжа. Яе, у адрозненне ад зернесушылкі, збірае ў сваім гаражы доктар тэхнічных навук Эдуард Ляўданскі. Гавораць, што ўсяго "ў прыродзе" існуе 5 экзэмпляраў падобнага аналага расійскай машыны. І калі яна, расійская, каштуе 10 мільёнаў нашых рублёў, то "машына Ляўданскага" – 3,5 мільёна. І электраэнергіі яна скрыстоўвае ў 3 разы менш за сваю расійскую "каляжанку". Але, акрамя ўсяго гэтага ўсур'ёз заняцца ачысткай збожжа, яго падрыхтоўкай да сушкі, жыццё прымусіла зрабіць і вось яшчэ чаму. Лішняя, здавалася б, аперацыя, рабіць якую забываюцца ў многіх гаспадарках, дазваляе сушыць збожжа, пазбаўленае ўсялякага пустазелля. І гэта таксама дазваляе эканоміць энергетычныя і часовыя затраты. "Даўгінаўцы" падлічылі: да 30%.

Адна гаспадарка, адзін накірунак (а ўсяго іх каля 140) у энергазберагаючых намаганнях Мінскай вобласці, а эфект — навідавоку. Усяго ў краіне гаспадарак, якія яшчэ ўчора калгасамі і саўгасамі лічыліся, — каля 2300. Але калгаснае жыццё – гэта вам не балет па Аркадзю Райкіну, які прапаноўваў кожнай балерыне дынаму да нагі прывязаць: "няхай ток дае ў недаразвітыя раёны". З сельгаспрадпрыемствамі жартаваць не варта. Пакрыўдзяцца – і не накормяць краіну. Вось толькі, верагодна, некаторых, якія думаюць іначай, чым у "Даўгінаве", краіне самой хутка давядзецца карміць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Грып прыйшоў у Смаргонь

**СМАРГОНЬ. Эпідэмія грыпу, якую прагназавалі медыкі, пачалася ў Беларусі яшчэ да Новага года. Некалькі дзён таму эпідэмія была аб'яўленая ў Віцебску і Наваполацку. З панядзелка – у Пінску. Захворваемасць вострымі рэспіраторнымі інфекцыямі і грыпам па краіне вырасла на 15%.**

Смаргонская раённая паліклініка перапоўненая хворымі, якія хочуць патрапіць на прыём да тэрапеўта. За дзень адзін доктар кансультуе прыкладна 45 пацыентаў. Да параўнання: летам да доктара на прыём прыходзіць за дзень 8–20 чалавек. Палове з тых, хто прыйшоў, ставіцца дыягназ вострай рэспіраторнай вірусная інфекцыі і грыпу. Не менш за дарослых хварэюць і дзеці. 15 снежня педыятру адной з дзіцячых кансультацый Смаргоні давялося агледзець і даць рэкамендацыі 96 маленькім пацыентам.

## Не прышчапляць? Ужо позна!

Тыя, хто зрабіў прышчэпку ад грыпу, атрымаюць да 76% абароненасці ад новага вірусу. Тых, хто толькі цяпер, адчуўшы набліжэнне небяспекі, з усіх ног кінецца ў працэдурны кабінет паліклінікі, спяшаемся засмуціць – рабіць прышчэпку ад грыпу позна!

Пра гэта трэба было паклапаціцца месяц таму, таму што на выпрацоўку антыцелаў у арганізме патрабуецца 3–4 тыдні. Усяго Смаргонскім раённым цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі было выдзелена 2300 доз прэпаратаў для вакцынацыі ад грыпу. 500 з іх – у раённую паліклініку, дзе былі прышчэпленыя медыцынскія работнікі. 1500 прышчэпак былі зробленыя бясплатна дзецям з аслабленым імунітэтам.

Спецыялісты–эпідэміёлагі яшчэ задоўга да з'яўлення небяспекі захворвання грыпам разаслалі на ўсе прадпрыемствы і арганізацыі Смаргоні паведамленні аб магчымасці вакцынацыі іх работнікаў. Аднак шквалу заявак на вакцынацыю ад кіраўніцтва прадпрыемстваў і арганізацый не было. Кошт адной прышчэпкі расійскага прэпарату "Грыпол" у сярэднім каштуе 3800 рублёў. Што куды танней, чым тыя выдаткі, якія даводзіцца аддаваць кожнаму хвораму на тое, каб купіць лекі. Дактары сцвярджаюць, што магчымасць своечасова сябе абараніць ад грыпу была ў кожнага жыхара Смаргоні і раёна. Іншая рэч, што справа гэтая добраахвотная. Да таго ж яшчэ і платная. Практыка паказвае, што шмат намаганняў для клопату аб сваім здароўі нашы людзі траціць не прызвычаіліся.

**Ірына ЛУПІНА.**



Трапіць на прыём да тэрапеўта смаронцам не так ужо і лёгка. У сувязі з тым, што колькасць хворых павялічылася, не заўсёды атрымліваецца ўзяць талон у рэгістратуры.
Фота Ірыны ЛУПІНАЙ.

■ ГАСЦЁЎНЯ

# У Маладзечне – новы начальнік міліцыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Крыху больш за 10 дзён засталося да Новага года. Шмат хто сустрэне гэта сямейнае свята дома, са сваякамі. Толькі не новы начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела унутраных спраў (ГРАУС) Віталь Дзмітрыеў. Ён будзе, як заўсёды, на службе.**

— У такое свята і працаваць не хочацца?..

— Жаданне ў маёй рабоце – пытанне адноснае. Калі трэба працаваць, значыць, трэба. Прафесія прадугледжвае своеасаблівы лад жыцця. Але я абавязкова знаходжу хвіліну, каб сказаць прыемныя словы дамачадцам.

Колькасць дзён, што Віталь Аляксеевіч знаходзіцца ў Маладзечне, можна пералічыць па пальцах. Але з першага погляду горад яму здаўся ўтульным, а людзі ўраўнаважанымі. З раённай і гарадской уладай, якая адразу прапанавала руку дапамогі, пазнаёміўся.



**Біяграфічная даведка**

**Начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віталь Дзмітрыеў нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Заполле Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў вышэйшую Мінскую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР. Працаваў у Расіі. Дэпутат Бярэзінскага раённага савета. Да пераезду ў Маладзечна ўзначальваў Бярэзінскі РАУС Мінскай вобласці. Узнагароджаны медалём за беззаганную службу. Жанаты. Жонка доктар. У сям'і выхоўваецца 8-гадовая дачка.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

– З прафесійнага пункту гледжання наш горад «цяжкі» ці не?

— Варта спачатку ўсё дасканала вывучыць. Ёсць нязначны рост злачыннасці. Існуе праблема п'янства, самагонаварэння.

Цяпер да гэтых праблем прыйдзецца шукаць падыход новаму начальніку міліцыі. Так як і «размаўляць» на агульнай мове з давераным яму вялікім калектывам гаррайаддзела ўнутраных спраў. Сакрэт навацый у ГРАУСе Віталь Аляксеевіч пакуль не раскрыў. Прыглядаецца і вывучае людзей, праблемы, абставіны і ўмовы работы. Заўважыў, што калектыў працаздольны і выконвае задачы, якія стаяць перад міліцыяй. Мяркуе абавязкова ўнесці штонебудзь новае, сваё. І дадае:

– З падначаленых толькі тады можна патрабаваць, калі ты, як начальнік, стварыў усе ўмовы для работы. Тады будзе аддача. А жыхары – спакойныя, што галоўнае ў нашай рабоце.

Для гараджан і вяскоўцаў нашага рэгіёну не сакрэт, што ў Маладзечне часта мяняюцца начальнікі міліцыі.

— Вы надоўга да нас?

— Людзі падзяляюцца на кар'ерыстаў і тых, кім рухае лёс. Так, як і мной. Ёсць загад, і я павінен яго выканаць.

Так, у Віталя Дзмітрыева шмат работы. Але ж ёсць і хвіліны адпачынку. Тады рыбачыць, палюе, падарожнічае па Беларусі. Любіць мастацтва і музыку, якія пакідаюць адбітак у душы. Праўда, калі быў апошні раз на выставе ці канцэрце не сказаў. Віталю Аляксеевічу даспадобы наш Палац культуры. Гаворыць, у Маладзечне з «культурай» яму пашанцавала. І ўсё ж такі галоўным хобі і справай для сэрца лічыць сваю работу.

P.S. Былы начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віктар Марозаў назначаны начальнікам аператыўнай дзяжурнай часці Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЗНАЁМСТВЫ

# Убачыў Беларусь

**СМАРГОНЬ. Жыццё нам бывае падкідвае знаёмствы з вельмі цікавымі людзьмі. Асабліва прыемна, калі мы гэтага зусім не чакаем. Так нядаўна адбылося і са мной. Зусім выпадкова я пазнаёмілася з маладым жыхаром Смаргоні Дзянісам Белым. Ён расказаў, што ў яго гасцюе сваяк, вельмі цікавы чалавек. Калі Дзяніс назваў свайго стрыечнага дзядзьку – Стэфан Гісіч, – то стрымаць здзіўленне было цяжка. Тыповае англійскае прозвішча неяк не вязалася з тыпова англійскім імем. Як высветлілася, такіх дзіўных супадзенняў у жыцці мужчыны было нямала.**



Стэфан Гісіч (злева) разам са сваім пляменнікам Дзянісам.

Бацька Стэфана ў час Вялікай Айчыннай вайны служыў у польскай арміі, а затым быў узяты англічанамі ў палон. Дзякуючы шчаслівай выпадковасці, беларускі хлопец застаўся жыць. Больш таго, з часам ён ажаніўся з прыгожай англійскай дзяўчынай, абзавёўся трыма дзецьмі і стаў прыстойным бацькам сямейства. Нягледзячы на тое, што жыццё ўвайшло ў стабільнае рэчышча, бацька Стэфана ні на мінуту не забываўся пра свае беларускія карані, усімі магчымымі і немагчымымі спосабамі спрабаваў паведаміць сваім родным у савецкай Беларусі аб тым, што застаўся жывым, што ў яго сям'я, што другой радзімай для яго стала Англія. Аднак у той час СССР аб'явіў Захаду "халодную вайну", і наладзіць кантакты было немагчыма. Сваю любоў да радзімы Стэфан перадаў і сваім дзецям. Ён выдатна памятае, як яшчэ хлопчыкам сядзеў у сябе дома на кухні і з захапленнем слухаў расказы свайго бацькі аб родных і Заходняй Беларусі, якія займаліся сельскай гаспадаркай і былі далёка не беднымі людзьмі.

Уражаны пачутым, Стэфан пакляўся сам сабе, што прыкладзе ўсе намаганні, каб самому пабачыць Беларусь. Хоць надзей на спаўненне сваёй мары ў маладога чалавека было мала.

Закончыўшы сваю адукацыю (Стэфан вывучаў гісторыю і палітыку), ён увесь час стараўся даведацца што-небудзь пра Беларусь. Аднойчы Стэфан сядзеў у бібліятэцы ў Інтэрнэце і выпадкова пазнаёміўся з чалавекам, які, як і ён, шукаў родных у нашай краіне. Аб'яднаўшы свае намаганні, яны выйшлі на перадачу Беларускага тэлебачання "Лёс чалавека". Менавіта беларускія тэлевізіёншчыкі і дапамаглі Стэфану знайсці сваіх родных. У маленькай вёсачцы Ручыца, што на Вілейшчыне, жыве родная сястра яго бацькі, а ў Смаргоні – стрыечная сястра.

Цяперашні візіт англічаніна Стэфана – ужо другі ў яго жыцці. З англійскім госцем мы шмат гаварылі аб праблемах, якімі жывуць як сённяшнія беларусы, так і англічане. У абедзвюх дзяржавах – вялікі ўзровень беспрацоўя, розніца толькі ў тым, што добрыя спецыялісты ў Англіі атрымліваюць дастойную зарплату, а ў Беларусі яны павінны "круціцца" хто як можа. Узровень англа-беларускіх адносінаў складана назваць перспектыўным, паколькі нашы дзяржавы моцна адрозніваюцца эканамічнай і сацыяльна-палітычнай сістэмай. У нашай гутарцы гэты прывабны мужчына не раз гаварыў аб тым уражанні, якое на яго аказалі беларусы, і смаргонцы ў прыватнасці. "Такой гасціннасці, сардэчнасці, добразычлівасці ў Англіі не сустрэнеш, — не адзін раз падкрэсліваў мой госць. "А яшчэ ў вас вельмі прыгожыя жанчыны! Такога абаяння і прыроднай прыгажосці я ніколі не бачыў. Дарэчы, Стэфан быў бы не супраць знайсці сваю другую палавінку ў нас, у Беларусі. Таму ёсць сэнс задумацца тым, хто таксама шукае сваё жаночае шчасце. Чым вам не зайздросны кавалер?..

А яшчэ мяне цікавіла, ці праўда, што ўсе англічане такія пасіўныя "тюфяки", якія нікуды ніколі не спяшаюцца і кожны дзень роўна ў 5 гадзін вечара п'юць свой вядомы англійскі чай? Вымушана вас расчараваць. Мой новы знаёмы адзначыў, што брытанцы, як і ўсе нармальныя людзі, бываюць розныя, сярод іх трапляюцца як веселуны, так і сапраўдныя зануды. А чай яны ўсё ж такі п'юць, таму што гэта вельмі даўняя традыцыя. Да традыцый прадстаўнікі гэтай нацыі адносяцца з вялікай павагай. Прыклад гэтаму падае сама англійская каралева, якой англічане вельмі ганарацца. Тое, што ўсе брытанцы – заўзятыя фанаты футбола, таксама праўда. Стэфан пра гэтую спартыўную гульню можа гадзінамі гаварыць. Гэта і не дзіва, бо ён жыве ў 50 мілях ад Манчэстэра – радзімы вядомага футбольнага клуба "Манчэстэр Юнайтэд". Вось такія яны, гэтыя самыя англічане. Хлебам іх не кармі – дай чаю папіць ды ў футбол пагуляць.

Ірына ЛУГІНА.

■ ВЯСКОЎЦЫ

# Жупраны – яе лёс

**АШМЯНЫ. Яна нарадзілася і вырасла ў вёсцы на Случчыне. Аднак радзімай сваёй лічыць Жупраны. Тут прайшла маладосць, тут сустрэла сваё сямейнае шчасце, дачакалася ўнукаў.**

Прыехала Тамара ў гэту мясцовасць 18-гадовай дзяўчынкай. Кваліфікаваных спецыялістаў было няшмат, і яе адразу ж прызначылі аграномам. Цяжка было і страшна. Вельмі ж ужо строгім быў старшыня гаспадаркі.

"Кіну ўсё, паеду", — не раз у хвіліны роспачы казала сабе дзяўчына. Напэўна, і рашылася б на гэты крок, каб не гутарка з раённым правяраючым. "Прывыкнеш, — казаў ён маладому аграному, — прызвычаішся, палюбіш сваю работу і яна падпарадкуецца табе".

Час унёс свае карэктывы ў жыццё. Калгас падужэў, стаў на ногі. Разам з ім акрыялі і людзі, на дапамогу якім прыйшла тэхніка, механізацыя. "Далёка было тым гусенічным трактарам да сягонняшніх, — успамінае былы агроном. – Ад аднаго толькі гулу можна было аглухнуць. Тым не менш працавалі ад рання да змяркання. І ніхто ніколі не скардзіўся ні на лёс, ні на жыццё. Кожны разумеў: так трэба".

Каханне ў яе жыццё ўварвалася неспадзявана. Глянулася мясцоваму хлопцу Чаславу — за яго і замуж пайшла. Ніхто ніколі не чуў у іх доме крыкаў, ніхто ніколі не сказаў, што Вішнеўскія не мірацца, дрэнна жывуць. Яны ўмелі саступаць адно аднаму, вырашаць усе пытанні мірна, быць добрымі работнікамі, клапатлівымі бацькамі. Можа, за гэту жыццёвую мудрасць і абралі вяскоўцы ў 1982 годзе Тамару Сямёнаўну Вішнеўскую старшынёй сельсавета.

"На гэтай пасадзе адпрацавала я 17 гадоў, — успамінае жанчына. Старалася быць справядлівай, але, магчыма, камусьці і недагадзіла, бо старшынёўства прыйшлося на часы перабудовы. Памятаеце: візіткі, купоны, талоны, спіскі на атрыманне макароны, цукру і... пустыя паліцы магазінаў. Неяк прывезлі ў мясцовы прамтаварны тры пары ботаў. Сяджу і не ведаю, як іх падзяліць на пяць тысяч насельніцтва".

Цяпер Тамара Вішнеўская на пенсіі. Але кажа, што сумаваць няма часу. Заўсёды шмат клопатаў у двары, гародзе, полі, бо маюць з мужам гектар зямлі, карову, свіней, курэй. Яно, можна было б жыць і лягчэй, ды не прывыклі сядзець склаўшы рукі. Лічаць што кожны, хто мае сілу, павінен працаваць. Бо работа як калечыць, так і лечыць. Паляжы на ложку два дні, і адчуеш сябе нямоглым, разбітым. А як пры рабоце, дык няма часу і пра хваробы думаць.

Ёсць у жанчыны і аддушына: унукі Владзік і Бужэнка. Жывуць яны з бабуляй не ў адным доме, затое ў адной вёсцы. Таму, як толькі выдасца вольная часіна альбо вечарок, яна спяшаецца да іх. У доме дачкі госцяй сябе не адчувае. Ведае, што маладыя занятыя на рабоце, таму і вячэру можа згатаваць, і піражкоў з унукамі напячы. Кажа, усе гэтыя клопаты толькі ў радасць. Прыемна адчуваць сябе патрэбнай.

Марына СЛІЖ.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Канцэрт Вольгі Патрый прынёс асалоду

**МАЛАДЗЕЧНА. У адзін з выхадных дзён у вялікай зале Палаца культуры адбыўся аўтарскі вечар спявачкі Вольгі Патрый. Прывабнай, таленавітай жанчыны, якая сама піша вершы і музыку на іх.**

Лёс не песціў яе. Вольга нарадзілася сляпой. Але не замкнулася ў сценах кватэры. Шмат працавала над сабой і знайшла сілы выйсці на сцэну. У час канцэрта яна выканала некалькі песень і рамансаў. Многія прысутныя слухалі іх і плакалі. Але Вольга сваімі песнямі казала:" Не сумуйце, людзі, радуйцеся жыццю і прымайце яго такім, якое яно ёсць".

Напрыканцы вечара спявачцы ўручылі вялікі прыгожы букет кветак. А ўсе прысутныя ў думках казалі: "Мужайцеся, Вольга, нясіце людзям радасць, прыемныя хвіліны і эмоцыі, якіх так не хапае ў жыцці".

Вольгу Патрый я слухала ўпершыню. Цяпер гэта імя мне гаворыць аб многім. Буду спадзявацца, што стане яна частай госцяй нашага горада.

Софія ЗАХАРОНАК.

■ АГЛЯД ДРУКУ

# Шырокія далоні «Лілеі»

**ВІЛЕЙКА. Мясцовая скаўцка-маладзёжная газета, што выдаецца на 8-і старонках фармату А3 (звычайны стандартны ліст) 1 раз у 2 тыдні, носіць назву "Лілея". Наклад – 299 асобнікаў. Выдавец – Вілейская скаўцкая харугва імя Якуба Ясінскага. Распаўсюджваецца бясплатна. Рэдактар – Віталь Паўлоўскі. Ужо пабачыла свет больш за паўсотню нумароў.**

Як дэвіз "Лілеі" – словы Якуба Ясінскага: "Хочаце быць вольнымі, дык будзьце імі". Аўтары – старшакласнікі вілейскіх школ. Юныя журналісты пішуць пра тое, чым жывуць самі, якімі клопатамі, што хвалюе іх равеснікаў. І хаця тэмы карэспандэнцый, рэпартажаў досыць мясцовыя, усё ж яны, відавочна, цікавыя сваёй канкрэтыкай, важкасцю пастаўленых пытанняў. Як прыклад, артыкул Людмілы Пенды "Міграцыя". Аўтар звяртаецца да тэмы "міграцыі" з гімназіі №2. І прыводзіць меркаванне вучаніцы 10 класа СШ №1, якая дагэтуль вучылася ў гімназіі: "З агульнаадукацыйнага класа зрабілі профільны, спачатку рэлігійна-гістарычны, а пасля проста гістарычны (рэлігіязнаўства паставілі як факультатыў), таму заняткі ў ВВК (вучэбна-вытворчы камбінат) адмянілі. Менавіта з гэтай прычыны мы і пайшлі ў іншыя школы...".

У кожным нумары чытача чакае сустрэча з найбольш яркімі, цікавымі равеснікамі горада, раёна. Оля Вербіловіч, напрыклад, расказвае пра Антона Рогача, вучня СШ №3. Кола інтарэсаў маладога чалавека – матацыкл, камп'ютэр, музыка, брэйк, ды і вучоба таксама (Антон збіраецца паступаць у медыцынскі інстытут).

"Лілея", хаця і выходзіць толькі 1 раз на 2 тыдні, уважлівая і да інфармацыі. Таму ў газеце змяшчаюцца і кароткія нататкі пра падзеі ў гімназіях, школах горада. Шкада, што ў меншай ступені шырокія інфармацыйныя далоні "Лілеі" распрасцёртыя на вясковыя вілейскія школы. Думаецца, і там хапае тэмаў, падстаў для выступленняў у друку. Але тут, пэўна, не сама "Лілея" вінаватая, а хутчэй – адсутнасць ініцыятывы саміх вясковых школьнікаў.

У скаўцкай газеце знаходзіцца месца для гісторыка-асветніцкіх, краязнаўчых публікацый (артыкулы Сяргея Макарэвіча – добры гістарычны "лікбез" для любога чытача).

"Лілея" з'яўляецца сведчаннем таго, што маладым ініцыятыўным людзям ёсць чым заняцца. Усялякія вялікія справы пачынаюцца з малога. Хаця "Лілея" – ужо далёка не немаўля.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Стала падпісчыцай

Я – інвалід 2 групы апорнарухальнага апарата. Таму на вуліцы бываю рэдка, большую частку дня праводжу дома. Чым займаюся? Гляджу тэлевізар, вяжу, чытаю кнігі, газеты. "Рэгіянальную газету" часта купляла ў кіёску. А цяпер вось вырашыла падпісацца і паўдзельнічаць у розыгрышы латарэі для падпісчыкаў. Можа, выпадзе шчасце і мне, выйграю адзін з прызоў. А не, дык буду 3 месяцы з задавальненнем чытаць цікавую газету, якая знаёміць з навінамі рэгіёну.

Людміла КУПРЫЯН, пасёлак Сасновы Бор.

**Ад рэдакцыі.** Пісьмы такога кшталту ў нашай пошце не рэдкасць. Калектыў "РГ" удзячны ўсім падпісчыкам і чытачам за аказаны давер. Спадзяёмся, што і надалей мы будзем разам.

 



■ ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Ім пашанцавала выжыць

**Аляксандр Гулецкі з Лазарцаў пад Вілейкай, Пятро Іванкевіч з Баяраў Маладзечанскага раёна і Сцяпан Мартынаў ледзь не загінулі ў канцлагеры ва Усходняй Прусіі. Перажылі вайну. Лёс зноў дазволіў ім спаткацца.**

## Дажыць да світання

Гэтая камера Вілейскай турмы СД трушчыла лёсы звыш 30–і чалавек. Самым вялікім страхоццем для вязняў была ноч: падымуць некаторых – і павялі... Неўзабаве начную цемру разарвуць бязлітасныя стрэлы.

9 мая 1943 года тых, хто выжыў, паднялі сярод белага дня. Прапусцілі праз лазню – і на вакзал. Заперлі ў "цялятнікі", і нястомныя колы пачалі адбіваць рытм новага маршруту іх пакут.

## Траплялі сюды па–рознаму

**Аляксандр Гулецкі** з Лазарцаў, што рассыпаліся па беразе Віліі побач Вілейкі, наадрэз адмовіўся служыць у паліцыі. Арыштавалі. "Мне 25 гадоў. Малады. Вытрымаю", – вырашыў ён.

**Пятро Іванкевіч** з Баяраў Маладзечанскага раёна ўжо зведаў смак нямецкай катаргі. Уцёк адтуль дадому. Злавілі – упяклі ў турму. Такіх набралася ў вагоне звыш 4 дзесяткаў. Ад беларусаў–заходнікаў адрозніваліся 14 ваеннапалонных. Іх схапілі 27 красавіка 1943 года ў Ласях былога Радашкавіцкага раёна. Трое сутак ў падвале СД у Маладзечанскім Гелянове з іх выбівалі прызнанне, хто ўзрываў чыгунку. Пагражалі шыбеніцай. Ніхто не здрадзіў, і іх шпурнулі ў Вілейскую турму. І ў камеры, і ў вагоне яны трымаліся дружным гуртам.

## Паглыналі прускія балоты

Іх прывезлі ў Кёнігсберг і загналі ў падземныя камеры, якія нагадвалі метро.

–Праз 2 тыдні нас вывезлі ў канцлагер Аргенбрух, а затым – у Кохенбрух, – успамінае **Сцяпан Мартынаў**, адзін з былых ваеннапалонных. – Гэта кіламетраў 50–60 ад Кёнігсберга.

Спыніліся ля лагера, абнесенага калючым дротам, за якім чарнелі канавы, паўнюткія вады. Па вуглах агароджы – вышкі з кулямётчыкамі. За прахадной – рады баракаў.

Адміністратар Гертнер прыняў навічкоў і загадаў:

– Кухарам і сталярам выйсці са строю!

Выйшлі "кухар" Іванкевіч і "сталяр" Гулецкі. У дапамогу "кухару" прызначылі Мартынава.

Аднаўлялі сілы нявольнікам кавалкам хлеба і баландой з бручкі ці з падмерзлай бульбы. Але кухонным усё ж перападалі нейкія "адходы вытворчасці": гушча з катлоў, кавалачкі хлеба, бульбы, бручкі. Ды і Гулецкаму пашанцавала: прызначылі рабочым у свінарнік.

Прыладкавалася гэтая тройца на некалькі крокаў далей ад краю пагібельнай бездані. Большасць жа нявольнікаў, не разгінаючы спінаў, карчавала пні на бяскрайнім балоце, пілавала і рассякала іх на дровы. Цаной здароўя і жыццяў нявольнікаў гібельнае балота ператваралася ў поле, на якім сцяной бушавалі каноплі і авёс.

Няўрымслівы характар Мартынава не даваў яму спакою: – Я, афіцэр Чырвонай Арміі, не магу працаваць на ворага! І стаў настойліва шукаць шляхі на волю. Гулецкі палічыў планы ўцёкаў неабачлівымі. Мартынава падтрымаў Іванкевіч.

## І яны рызыкнулі

5 верасня сябры схаваліся за скрынямі смецця. Калі адвячоркам кулямётчыкі на нейкія хвіліны пакінулі вышкі, каб замкнуць баракі – тыя праз дрот, канаву і каноплі ўцяклі.

Беглі басанож. Днём хаваліся ў лесе, агародах, у стагах. Ішлі начамі. Нёман пераплылі на лодцы, якую адарвалі ад прывязі. На ўсходнім беразе іх пераапранулі, абулі, накармілі і паказалі дарогу на Коўна літоўцы. Пераправілі праз Вілію.

На росстані заспрачаліся. Сцяпан быў упэўнены, што трэба трымацца права, Пятро – пайшоў налева. Расталіся.

Сцяпан дайшоў да лясной вёсачкі і затаіўся ў кустах. Вечарам мужыкі прынеслі вестку: немцы схапілі нейкага чужынца. Сцяпана, як варам абдало, – відаць, схапілі Пятра. І ён заспяшаўся прэч...

## А ў няволі

Аляксандра Гулецкага, нібы саўдзельніка, доўга цягалі па розных турмах. Урэшце апынуўся ў Аўстрыі ў канцлагеры Маутхаўзен.

Ад крэматорыя ўратавалі палякі, якія замянілі яго нумар на нумар памерлага.

Вясной 1945 лагер вызвалілі амерыканцы. Былыя зняволеныя кінуліся за вароты. На волю! Шматтысячны натоўп рвануў у Лінц, да якога было 29 кіламетраў.

Там сустрэўся Гулецкаму нейкі аўстрыяк. Разгаварыліся. Аказалася, што ў 1–ю сусветную той быў у Вілейцы і Смаргоні. Запрасіў з сябрамі дадому. Даў памыцца ў ванне, пераапрануцца, паесці. Ляглі спаць. Але страх, які назапашваўся за гады лагерных пакут, падняў былых вязняў сярод ночы. Ім здалося, што гаспадар прывядзе... немцаў! І яны кінуліся наўцёкі...

## Новыя вёсны жыцця

У 1946 годзе А. Гулецкі будаваў у Вілейцы дом. Уладкаваў справы у рамбудканторы, выйшаў за парог і – ледзь не абамлеў: перад ім стаяў высокі лейтэнант.

–Сцяпан, ты? Вас жа павесілі... У лагеры так аб'явілі...

– Бачыш, жывы...– адказаў усхваляваным голасам Мартынаў. На людскіх вачах яны горача абняліся і расплакаліся, не хаваючы слёз.

Праз 22 дні пасля ўцёкаў, адмахаўшы 600 кіламетраў, Мартынаў быў ужо на Вілейшчыне. Партызаніў у брыгадзе "За савецкую Беларусь". Пра лёс Пятра Іванкевіча, якога схапілі немцы ля Коўна, нічога не было вядома. Мартынаў таксама будаваў сваё гняздо ў Вілейцы. Служыў у Асавіяхіме – знішчаў выбуховыя рэчывы.

А праз некаторы час адшукаўся і Іванкевіч. У Маладзечне.

Той выкруціўся ад пятлі тым, што быццам бы адстаў ад цягніка, на якім яго нібыта везлі ў Нямеччыну. Змясцілі ў канцлагер аж пад французскую мяжу. Вызвалілі амерыканцы.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**



Былыя вязні нямецкіх канцлагераў Аляксандр Гулецкі і Сцяпан Мартынаў.

Фота з альбома А.ГУЛЕЦКАГА.

## Была гімназія

**МЯДЗЕЛ. Сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова, Будслаўская беларуская гімназія, была заснавана ў мястэчку Будслаў у канцы 1917 года.**

Навучалася тут больш за 300 сялянскіх дзяцей абодвух палоў. Выкладанне вялося на беларускай мове. Дырэктарам працаваў Іосіф Васілевіч.

Гімназія часова размяшчалася ў арандаваным памяшканні, таму вясной 1918 года Народны сакратарыят Беларусі выдзеліў фінансавыя сродкі на будынак, і летам пачалося яго будаўніцтва. Але намечаным планам не суджана было збыцца. Паводле заключанага паміж Польшчай і Савецкай Расіяй мірнага дагавора Будслаў апынуўся ў межах Польшчы. У 1920 годзе бацькам было аб'яўлена, што гімназія зачыняецца. Супраць гвалтоўнага яе закрыцця выступілі 500 чалавек, аднак іх пратэст быў пакінуты ўрадам без увагі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ЗДАБЫТКІ НАШЫХ ЗЕМЛЯКОЎ

# Вацлаў Ластоўскі – наш Глогер

**Хто ў Ракаве не ведае сям'ю Янушкевічаў?! Ды хіба толькі ў Ракаве?!**

Зазірніце ў 2-ю частку 6-га тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Валяр'ян Язэпавіч Янушкевіч – скульптар. Аўтар многіх помнікаў у Беларусі і за яе межамі. І сярод іншых работ – помнікі М.Агінскаму ў Маладзечне і І.Гашкевічу ў Астраўцы. Фелікс Язэпавіч Янушкевіч – мастак. На яго карцінах – Рагнеда, Адам Міцкевіч, Кастусь Каліноўскі, Уладзімір Караткевіч. Язэп Язэпавіч Янушкевіч – літаратуразнавец, археограф, пісьменнік. І ўсе – родныя браты.

Апошняя з прац Язэпа Янушкевіча – падрыхтаваная, адрэдагаваная, пракаментаваная ім "Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны" Вацлава Ластоўскага. З прадмовы Язэпа Янушкевіча да гэтай кнігі, што, паверце, павінна стаць сапраўдным бестселерам у асяродку цікаўных да гісторыі людзей: "Памятаю, калі меў гадоў 20, у нашай новай хаце на свежасмалістых, самаручна выштукаваных кніжных паліцах з'явілася некалькі тамоў адмысловай "Старапольскай энцыклапедыі" Зыгмунта Глогера (1845-1910). Разам з факсімільна ўзноўленым багаццем ілюстрацый "дзеля якіх, не ў апошнюю чаргу" і набываліся старэйшым братам-мастаком фаліянты для хатняй бібліятэкі ў Ракаве (пры зычлівым, як цяпер кажуць, "спонсарстве" нашага таты), мяне зачараваў змест артыкулаў. Не верылася, што іх напісаў адзін чалавек.

Тады й не падазраваў, што напачатку 1990-х у віленскіх архіўных сховах напаткаю манускрыпт, складзены "нашым Глогерам" – Вацлавам Ластоўскім (1883-1938). А натрапіўшы, ужо ўсведамляў: адшуканая важная папка сляпога машынапіснага тэксту – нязначная часціна навуковай і творчай спадчыны чалавека, чыё імя мэтанакіравана замоўчвалася...".

Артыкулы альбо параграфы, з якіх складаецца "Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны", уяўляюць сабой лагічна завершаныя замалёўкі, "стылістычна зграбныя". Сабраныя разам, яны ўяўляюць выразны гісторыка-мастацкі партрэт старажытнай Беларусі. Альбо, кажучы словамі дасведчанага гісторыка Аляксея Каўкі, з'яўляюцца "панарамным палатном нацыянальнай гісторыі – нашага сацыяльнага радаводу, нашых палітычна-дзяржаўных, рэлігійных, культурных традыцыяў...".

"Акты трыбунальскія", "Альвар", "Артылерыя беларуская", "Архівы судовыя", "Арыстакратыя"... Амаль 90 артыкулаў. Адметная літаратурная мова, якая дапасуе да размовы пра старасветчыну. Многія тэрміны, якія сталі прадметам разгляду В.Ластоўскага, рэдка дзе падрабязна і разглядаліся. "Кароткая энцыклапедыя старасьвеччыны" можа служыць у аднолькавай ступені важнай крыніцай як для дасведчаных гісторыкаў, так і для аматараў. Тыраж новай кнігі В.Ластоўскага, якая пабачыла свет дзякуючы руплівасці выдаўца В.Хурсіка, — 300 асобнікаў. У Я.Янушкевіча былі спробы выдаць кнігу ў дзяржаўным (энцыкла-) выдавецтве. Але нічога не атрымалася. Ды будзем спадзявацца, што "будучае выданне спадчыны паэта, пісьменніка-публіцыста, даследчыка-археографа, фалькларыста-этнографа, гісторыка-энцыклапедыста, сабранае разам, складзе не адзін важкі, змястоўны том – надзейны падмурак, закладзены верным сынам Бацькаўшчыны дзеля незалежнасці радзімы ў сваіх "гістарычна-этнаграфічных межах". Бо ўся спадчына Власта, кожны ягоны навуковы артыкул або мастацкі твор – ахоўныя навязі, абярогі ў пакручастым лёсе Беларусі-Літвы-Крывіі... Спадзеючыся на лепшае, Язэп Янушкевіч вельмі шмат робіць, не спадзеючыся адно толькі на некага, на тое, што нешта важнае зробіцца само па сабе.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

 

# Са Смаргоні – на «Поле цудаў»

**У Маскву на вядомую тэлеперадачу "Поле цудаў" жыхарка Смаргоні Наталля Сямёнава павезла кніжку аб сваім горадзе, які сёлета адзначыў юбілей, славутыя смаргонскія абаранкі і каравай, які выпеклі на хлебазаводзе ў Каранях.**

Але гэта быў не проста каравай – смаргонскія пекары пастараліся зрабіць яго арыгінальным. Зверху каравай быў упрыгожаны ў выглядзе карты Беларусі. Яна была падзеленая на шэсць абласцей. Прычым, кожная вобласць выкладзеная кулінарнымі спецыямі: макам, кунджутам, ільняным семем... Сцяжкамі былі выдзеленыя Мінск і Смаргонь. Дарэчы, той, хто бачыў 12 снежня "Поле цудаў", то пабачыў і пачуў, як сам Леанід Якубовіч перадаваў прывітанне Марыі Іванаўне ў Смаргонь (ні каму іншаму, як загадчыцы лабараторыі хлебазавода Марыі Лысік).

Такім чынам аб маленькім беларускім гарадку Смаргонь на "Полі цудаў" пачулі ў другі раз. І ўсё дзякуючы смаргонскім жанчынам. На гэты раз – Наталлі Сямёнавай, вялікаму аматару праграмы "Поле цудаў", каторую яна ні разу не прапусціла паглядзець з часу нараджэння перадачы, калі яшчэ яе вёў Улад Лісцеў.



Вядучы "Поля цудаў" Леанід Якубовіч – заўсёды рады падарункам і заўсёды радуе падарункамі.

### З другой спробы

Складаннем уласных красвордаў яна займаецца прыкладна год. "Яшчэ перад пенсіяй я працавала вартаўніком. Было, абкладуся на працы газетамі і разгадваю крыжаванкі. А пасля стала іх складаць сама, – расказвае Наталля. – На "Поле цудаў" свой красворд я пасылала двойчы. У першы раз я склала крыжаванку "Полымя", зрабіла чарнавік, а мая дачка (яна мастачка) аформіла яго на вялікім ватмане. 7 месяцаў прайшло з таго моманту, але, як кажуць, ні слыху, ні дыху...

Тады я вырашыла даслаць яшчэ адзін красворд – больш просты. Дачка таксама аформіла яго на ватмане – у выглядзе васілька, з якога выпаўзае гусеніца–красворд. І як аказалася, усё геніяльнае – проста. На гэты раз звярнулі ўвагу стваральнікі перадачы. Я даслала яго 30 кастрычніка, а 15 лістапада мне прыйшоў выклік на здымкі, якія адбыліся 27 лістапада".

На зборы ў Наталлі Сямёнавай заставалася не так ужо і многа часу. Але трэба аддаць належнае смаргонскім спонсарам. Нягледзячы на нялёгкае эканамічнае становішча, ніхто ёй не адмовіў. Грошай на паездку хапіла.

### ...А Якубовіч – як у тэлевізары

Самае цікавае і цяжкае чакала яе наперадзе. За гадзіну да здымак усе гульцы з'явіліся ў Астанкіне. Па чарзе ўсе наведалі грымёра (прычоскі рабілі самі) і выслухалі рэкамендацыі здымачнай групы.

Здымкі перадачы былі нялёгкімі. Доўжыліся аж тры гадзіны. Дарэчы, памяшканне, дзе адбываецца шоу, маленькае, разлічанае ўсяго на 200 чалавек. І на самой справе не такое яркае і маляўнічае, як выглядае па тэлевізары.

"А вось Якубовіч быў такім, як і ў тэлевізары. Гаваркім, цікавым і простым. З ім было вельмі лёгка,– заўважыла Наталля. – Расказаў нам, як трэба паводзіць, каб "не выпасці з кадра". А таксама зрабіў акцэнт на тым, што чым весялей і свабадней мы будзем сябе паводзіць, тым больш у нас шанцаў заняць эфірны час. А гэта немалаважна. Бо толькі адна траціна запісанага трапляе ў эфір, дзве – проста выразаюцца".

### Пасляздымачныя хваляванні

Цяпер Наталля ўспамінае гульню, як сон: "Першае ўражанне пасля гульні – незадаволенасць. Было так крыўдна, што я ведала гэтае слова (седло) – і не змагла яго назваць. Таму што ход быў невыніковы. Ды і прамову сказала не тую, што збіралася. Проста я моцна хвалявалася... Пасля, калі глядзела перадачу, нават свой голас не пазнала. І нягледзячы ні на што – магу сказаць, што мая мара здзейснілася".

На памяць Наталлі застаўся відэамагнітафон, за які ёй прыйдзецца заплаціць падатак (33% ад яго кошту – прыкладна 70 тысяч нашых рублёў), запіс перадачы і мора ўспамінаў.

**Галіна АНТОНАВА.**

■ **ПАМІЖ НАМІ, ЖАНЧЫНАМІ**

# Ваша кар'ера ў XXI стагоддзі

**Кажуць, сённяшні абывацель жыве нашмат лепш за сярэдневяковага цара – галоўным чынам дзякуючы магчымасці карыстацца санвузлом. Гэта, канешне, важкі аргумент. Затое цару не абавязвалася ведаць, што такое драйвер, працэсар, мікрасхема...**

Як, і вы ніколі пра гэта не чулі? І нават не падключаліся да Інтэрнэта? Тады вы не проста адсталі ад жыцця, вы з яго выпалі.

Прычым жанчынам у гэтай сітуацыі нашмат горш, чым мужчынам. Быў час, калі слова "кар'ера" ў дачыненні да жанчыны вымаўлялася ў выглядзе асуджэння. А потым жанчыны, якім удавалася сумясціць кар'еру з выхоўваннем дзяцей, выклікалі павагу. А ў новым тысячагоддзі ад жанчыны патрабуюць не адну кар'еру і дзяцей, а некалькі паралельных ці паслядоўна "здзейсніўшыхся" кар'ер. Плюс пастаяннае прафесійнае ўдасканаленне, таму што ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі ніхто не дазволіць вам праціраць спадніцу на адным месцы да самай пенсіі. Прычым варта ўлічыць, што клапаціцца пра сваю кар'еру вам давядзецца ўсё ж самой, а не рабатадаўцу.



Раблю кар'еру. Фота з архіва «РГ».

### Ахова здароўя

Дрэнная навіна: мабыць, людзі будуць хварэць заўжды. Але калі ў наш час можна памерці ад памылкі друку ў медыцынскай энцыклапедыі, то праз 15-20 гадоў можна будзе памерці ад камп'ютэрнай памылкі.

Добрая навіна: ваша прафесія ніколі не састарэе. Больш таго, у гэтай галіне вам дадзены фактычна бясконцы дыяпазон занятку. Кажуць, да, напрыклад, 2010 года, мы будзем карыстацца камп'ютэрызаванай сістэмай медыцынскага абслугоўвання – нешта накшталт мініяцюрнай дамашняй лабараторыі, якая паставіць дыягназ, выпіша рэцэпт ці дасць накіраванне да спецыяліста.

### Менеджмент

Па прагнозах, у недалёкай будучыні зменіцца сама сістэма кіравання і месца гіганцкіх прадпрыемстваў з жорсткай субардынацыяй зоймуць мабільныя прадпрымальніцкія сеткі з камандамі спецыялістаў, якія можна будзе з лёгкасцю перакідваць з аднаго міжнароднага філіяла ў другі.

Добрая навіна: лічыцца, што жанчынам ў гэтай сферы будзе нашмат лягчэй зрабіць кар'еру дзякуючы вялікай камунікабельнасці.

Дрэнная навіна: без ведання некалькіх замежных моў вам не абысціся.

### Экалогія

Нават калі нам не прыйдзецца праз пару дзесяткаў гадоў пры выхадзе з дому апранацца ў спецыяльны касцюм, які будзе засцерагаць вас ад шкодных уздзеянняў навакольнага асяроддзя, і нават калі да 2100 году вучоныя, насуперак прагнозам, не накрыюць Зямлю штучным атмасферным каўпаком, у бліжэйшыя гады чакаецца рэзкі рост папулярнасці такой прафесіі, як эколаг.

### Адукацыя і сацыяльнае забеспячэнне

У будучыні не патрэбныя будуць настаўнікі, таму што навучанне будзе весціся з дапамогай спецыяльнага камп'ютэрнага блока, падключанага непасрэдна да мозга. А з іншага боку – можна смела меркаваць, што хутка, ратуючыся ад татальнай "глабалізацыі", людзі пачнуць шукаць абароны ў сям'і і ў невялікіх суполках. У гэтым выпадку чакаецца вялікі попыт на сацыяльных работнікаў, настаўнікаў і інструктараў (нешта накштал масавікоў-забаўнікаў) для усіх узростаў.

### Жыллё

Проста навіна: да 2010-2015 года чакаецца масавая міграцыя гарадскіх жыхароў у сельскую мясцовасць. Менавіта цяпер, калі увесь свет душыцца гамбургерамі і запівае тугу "кока-колай", кожнаму хочацца мець "свой домік з чарапічным дахам". Ажыццявіць гэту мару чалавецтву дапамогуць дызайнеры па інтэр'еру, спецыялісты па камп'ютэрызаваным дамашнім сістэмам, вытворцы арыгінальнай мэблі і дробных бытавых прыналежнасцяў.

### Сродкі масавай інфармацыі

Кажуць, у будучыні ў кожнага з нас з'явіцца свая ўласная сістэма сувязі. Як гэта будзе адбывацца? Персанальны камп'ютэр на падставе аналізу вашых уяўленняў створыць штодзённы ўласны журнал, які будзе папаўняцца інфармацыяй, якая выключна цікавіць вас. Пры гэтым, акрамя здольных праграмістаў, спатрэбяцца журналісты, проста эрудыты, спецыялісты па знаходжанні патрэбнай інфармацыі і яе афармленні адпаведным чынам.

### Сэрвіс

Віртуальны кансультант ніколі вам не нахаміць, не возьме з вас лішніх грошай, не засыпле кучай непатрэбнай інфармацыі. Пры ўсіх перавагах "камп'ютэрнай сакратаркі", якая ўжо сёння можа за вас рабіць пакупкі ў супермаркеце, заказваць білеты за мяжу і г.д., пяшчоты і цеплыні ад яе не дачакаешся.

Таму па-ранейшаму будзе існаваць попыт на кансультантаў-касметолагаў, спецыялістаў па пытаннях кар'еры, іміджмейкераў і целаахоўнікаў.

### Спажывальніцтва

Дрэнная навіна: вытворчасць тавараў аднаразовага спажывання пастаўлена на канвеер, таму ў гэтай галіне перспектыў для спецыялістаў няма.

Добрая навіна: у той час, калі свет запоўняць рэчы-аднадзёнкі, людзей цалкам могуць зацікавіць прыродныя матэрыялы і месца пластыка зойме драўляная мэбля, гліняны посуд, натуральныя прадукты харчавання... У гэтай галіне магчымасці будуць неабмежаванымі – спатрэбяцца вынаходнікі, мастакі, дызайнеры [illegible]

**А цяпер вынік. Вы не прагадаеце, калі знойдзеце нішу ў адной з наступных сфер:**

– камп'ютэры;

– распаўсюджванне і маркетынг;

– сельская гаспадарка;

– цэнтры па гандлі натуральнымі прадуктамі харчавання, уключаючы кансультантаў-дыетолагаў;

– рэстараны "хуткай яды" са спецыялізацыяй на здаровае харчаванне;

– клубы здароўя і спорту;

– клінікі альтэрнатыўнай медыцыны;

– магазіны тавараў "зрабі сам";

– службы па дастаўцы тавараў на дом.

А вось пералік прафесій, якія ў будучым, хутчэй за ўсё, не спатрэбяцца:

– чарцёжнік, паколькі ўся работа будзе выконвацца на камп'ютэры;

– бібліятэкар, паколькі каталагізацыя таксама будзе камп'ютэрызаваная;

– традыцыйны турагент, паколькі ўжо сёння можна заказваць авіябілеты, гасцініцы, білеты ў тэатр і г.д. па Інтэрнэту;

– традыцыйныя сакратаркі, таму што камп'ютэр зможа рабіць вялікую частку канцылярскай работы – планаваць сустрэчы, складаць каталогі, сістэматызаваць архіў і г.д.;

– друкарскія рабочыя, бо ўвесь працэс друку будзе камп'ютэрызаваны;

– банкаўскія службоўцы. У адзін цудоўны дзень банкаўскія аперацыі будуць выконвацца з дапамогай дамашняга камп'ютэра.

**Падрыхтавала Алена УРБАНОВІЧ.**

 



# ВІНШАВАНКІ

**Оскирко Николаю Анатольевичу!**
Милый, любимый, единственный. Пусть весь мир знает, что ты – самый лучший.

День рождения – особая дата.
Этот праздник ни с чем не сравнить.
Кто-то добрый придумал когда-то
Имениннику радость дарить.
Всё хорошее в этой судьбе
От души мы желаем тебе.
Храни тебя судьба
От мрака и несчастья,
От злого языка и сильного недуга,
От умного врага
И мелочного друга.
И дай тебе Господь,
Коль это в его власти,
Здоровья, долгих лет
И много-много счастья.

*С любовью, твоя семья.*

**Цэнтр роўнага навучання** віншуем з Калядамі! Усім мультыплікатарам жадаем моцы духу і Божага благаслаўлення. *Маладзечанскае аддзяленне ГА "ХСДМ".*

**Наталлю Цярэшку** віншую з Калядамі! Усё будзе добра – галоўнае верыць у гэта. *Ад сяброўкі.*

**Аляксандра Мідонава** віншую з Калядамі і наступаючым Новым 2004 годам!!! Чароўных імгненняў у жыццёвай казцы. *Валянціна.*

**Валянціну Уладзіміраўну Кавальчук** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы. *Муж, сын, брат і яго сям'я.*

**Валянціну Уладзіміраўну Кавальчук** з 40-годдзем! Любая дачушка! Сардэчна віншуем цябе і жадаем шчасця, здароўя і удачы. *Маці і тата.*

**Айца Мікалая Уладыку** віншую з днём Анёла. Жадаю моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, поспехаў. *Кацярына.*

Шаноўная **Лідзія Іванаўна Кшталтная**! Віншуем Вас з 50-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Калегі.*

**Валянціну Міхайлаўну Татарчук** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгага жыцця. *Муж, дзеці, зяць, унукі.*

**Наташу Карповіч**, самую прыгожую, пяшчотную і ласкавую дзяўчыну на свеце, віншую з заканчэннем вучэбнага тыдня. *З каханнем, Руслан!*

**Таццяну Віктараўну Кузіну** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Мама, тата, брат, муж, дзеці.*

**Вольгу Леанідаўну Буйневіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту. *Сыночак, дачушка, муж.*

**Міхаіла Шульжыцкага** (Вілейскі р-н) віншуе з 50-годдзем маладзечанскі турклуб "Пілігрым" і жадае здароўя, поспехаў у рабоце, вучобе і спорце, добрага настрою.

Сяброўку **Насцю М.** віншую з надыходзячым 2004 годам! Няхай збываецца ўсё, аб чым марыш. *Сяброўка Ганна з Вілейкі.*

**Таццяна Шарафановіч**! Віншуем цябе з 20-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, доўгага жыцця, поспехаў усюды і ва ўсім. *Каця і Вадзім.*

**Танюшу Шарафановіч** віншую з днём нараджэння!!! Каханая, ты лепшае, што ёсць на свеце. Больш сонечных дзён і усмешак табе. *Сяргей.*

■ ШАШКІ

# Ход у канверце

*Над шашечной доскою*
*тишина,*
*Ведь творчество –*
*нелегкое блаженство.*
*И снова наша мысль*
*напряжена,*
*Мы ищем красоту*
*и совершенство.*
*Игра эта — поэзия без слов,*
*Гармония ума и оптимизма,*
*Здесь вспышки*
*неожиданных ходов*
*Несут парадоксальность*
*афоризма!*

Гэтымі радкамі падкрэсліваецца спартыўны напал барацьбы ў шашачнай гульні, прыгажосць і часам фантастычнасць нечаканых ходаў, якія прыводзяць да бліскучай перамогі і выхавання некаторых каштоўных якасцяў спартсмена. Адной яе паўнапраўнай разнавіднасцю з'яўляецца гульня па перапісцы. Што па сутнасці аднолькавая з гульнёй на дошцы, толькі розная па форме: сапернікі пасылаюць адзін другому ходы поштай.

Завочная гульня па-свойму вельмі цікавая і ніколькі не саступае паядынку ў турнірнай зале. Тут можна грунтоўна, спакойна прааналізаваць сітуацыю, разабрацца ва ўсіх яе тонкасцях і пры гэтым не трэба з жахам глядзець на флажок кантрольнага гадзінніка. Яна мае перавагу і ў параўнанні з вочнай гульнёй – не трэба вызваляцца з працы і выязджаць на месца спаборніцтваў. У час гульні ніхто не забараняе карыстацца спецыяльнай літаратурай і іншымі даступнымі сродкамі, якія дапамагаюць падрабязна разбіраць складаныя пазіцыі, ажыццяўляць стратэгічныя планы і нават праводзіць шматходовыя прыгожыя камбінацыі.

Таму завочныя шашкі карыстаюцца вялікай папулярнасцю як сярод спецыялістаў аналізу, моцных шашыстаў-практыкаў, якія ўдасканальваюць свае аналітычныя здольнасці, так і сярод простых аматараў старажытнай гульні. Для некаторых з іх такі занятак стаў адзінай уцехай у жыцці. Таму шматлікія беларускія шашысты ахвотна ўдзельнічаюць у турнірах па перапісцы, дзе можна атрымаць як самыя высокія спартыўныя званні (да гросмайстра), так і стаць чэмпіёнам вобласці, краіны, свету. У залежнасці ад узроўню спаборніцтваў турніры могуць працягвацца ад некалькіх месяцаў да 2-3 гадоў.

Першыя завочныя спаборніцтвы па шашках адбыліся ў Расіі ў канцы XIX стагоддзя і паслужылі аб'яднанню аматараў гэтай гульні, садзейнічалі папулярызацыі і развіццю тэорыі, а таксама падрыхтавалі глебу для правядзення першых Усерасійскіх вочных спаборніцтваў.

У былым СССР гульня па перапісцы аднавілася ўжо ў далёкім 1922 годзе, а праз 2 гады ў першым Усерасійскім турніры адным з пераможцаў стаў мінчанін Аляксандр Круталевіч, брат першага ў Беларусі майстра спорту Барыса Круталевіча.

Асаблівага росквіту завочная гульня ў Беларусі дасягнула ў 60-х гадах мінулага стагоддзя дзякуючы нястомным прапагандыстам і арганізатарам шашак Аркадзю Ракітніцкаму і Раману Карпаву. Сёлета пачаўся ўжо 38 чэмпіянат рэспублікі і другі чэмпіянат Мінскай вобласці. Сярод іх удзельнікаў – і шашысты з нашага рэгіёну: Леанід Жыхар і Леанід Козел (Мядзельскі раён), Гендрык Мілаш (Астравецкі раён), Сяргей Матус (Валожын), Анатоль Рогач (Вілейка).

Трэба адзначыць, што нашы землякі яшчэ і раней паказвалі нядрэнныя вынікі. Так, чэмпіёнам Беларусі ў 1981 годзе быў Валянцін Праснякоў (пас.Партызанскі Вілейскага раёна). Гендрык Мілаш паспяхова выступае і ў міжнародных спаборніцтвах. Яму прысвоена званне майстра спорту Расійскай Федэрацыі.

Жанчыны выступаюць у турнірах нароўні з мужчынамі. Усяго ў рэспубліцы было праведзена толькі тры жаночыя першынствы па перапісцы. У 2-м чэмпіянаце (1991 год), дзе сярод удзельніц было некалькі майстроў спорту, у тым ліку і неаднаразовая чэмпіёнка СССР па гульні на дошцы Алена Соркіна, нечаканую перамогу атрымала школьніца з Вілейкі Людміла Рогач.

Вось адна з партый-мініяцюр, у якой чэмпіёнка выйграла чорнымі ў Валянціны Сенчанкі з Віцебска.

1. c3-b4 f6-e5 2. g3-h4 e5-f4 3. e3:g5 h6:h4 4. b2-c3 b6-c5 5. a1-b2? (Дрэнны ход, які, фактычна, прайграе партыю) a7-b6 6. b4-a5 d6-e5! Чорныя паставілі пастку, у якую белыя і трапілі. 7. c3-b4?



Ход і выйгрыш чорных.

А вось яшчэ адна партыя-мініяцюра, якая гулялася роўна 100 гадоў таму ў Расіі паміж Н.Быкавым і Г.Савушкіным.

1. e3-d4 d6-c5 2. f2-e3 f6-g5 3. c3-b4? (Неасцярожны ход, які прывёў да знішчальнай кампазіцыі і выйгрышу чорных.

У абедзвюх партыях знайдзіце выйгрышныя камбінацыі за чорных.

**Зверце рашэнні "РГ" ад 24.10.2003 г., №43.**

Заданне №1. Валянцін Праснякоў.
1. g5-h6 b6-a5 (астатняе проста). 2. d4-e5 a5:c3 (калі 2...d6:f4 3. c5-b6 a7:c5 4. b4:b8 x) 3. e5-f6! g7:e5 4. c1-b2 d6:b4 5. b2:a5 x.

Заданне №2. Вячаслаў Праснякоў.
1. c5-b6 a5:c7 2. b2-c3 d2:b4 3. d4-c5 b4:d6 4. f6-e7 d8:d4 5. f4-g5 h2:f4 6. g5:e7 f8:d6 7. h6:c5 x.

Правільныя адказы прыслалі Анатоль Гомза (Вілейка), Леанід Жыхар (г.п.Крывічы), Сяргей Матус (Валожын), Даша Рогач (Маладзечна).

Чакаем вашых новых пісем.

**Анатоль РОГАЧ,**
**кандыдат у майстры спорту.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**19-21 снежня. "Выкрадальнікі мінулага"**, ЗША, прыгоды – у 17.00. 20, 21 снежня – у 15.00 і 17.00. **"Марская прыгода"**, ЗША, камедыя, акрамя асоб да 16 гадоў, — у 19.00 і 21.20.
**22-28 снежня. "Ну, ты і прыдурак"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00 і 21.00. **"Грамілы"**, ЗША, баявік – у 19.00.

**Для дзяцей**

**20 і 21 снежня. "Свята навагодняй ёлкі"**, Расія, мультпраграма – у 13.00.
Дыскатэка: у пятніцу – з 21.00 да 1.00, у суботу — з 21.00 да 2.00, ў нядзелю – з 20.00 да 24.00. Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.

**Служба Дзеда Мароза**

Які ж Новы год без Дзеда Мароза і Снягурачкі? Запрасіце іх да сябе дадому, і яны наладзяць вашым дзецям і вам сапраўднае свята.
Тэл. для даведак: 7-17-02, 7-72-92.
Кінатэатр "Радзіма", дыскатэка "Медыум" запрашаюць на навагоднія ранішнікі. У праграме: святочная дыскатэка, гульні, сюрпрызы, конкурсы ад Дзеда Мароза і Снягурачкі, салодкі стол.
Прымаем калектыўныя заяўкі ад арганізацый і навучальных устаноў. **Тэл. для даведак: 7-06-30, 7-17-02.**

■ ВІКТАРЫНА

## Мая Беларусь-2. Трэці тур

Добры дзень, шаноўныя! Даём правільныя адказы на пытанні трэцяга тура.

1.Месца, дзе 15 жніўня 1812 года адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Напалеону, называецца сёння **плошча Свабоды.**

2. Імя і прозвішча нявесты Кастуся Каліноўскага, якая пасля паражэння ўзброенага паўстання была адпраўлена ў сібірскую ссылку, **Марыля Ямант.**

3. "Першае чытанне для дзяцей-беларусаў" выйшла ў свет у **1906** годзе. Яго аўтарам была **Цётка** (Алаіза Пашкевіч).

4. У 1929-1930 гадах у Белавежскую пушчу былі завезены 7 зуброў. Краіны, адкуль іх даставілі, – **Германія і Швецыя.**

5. Упершыню вядомая байка Кандрата Крапівы "Дзед і баба" была надрукавана ў газеце **"Беларуская вёска"**.

6. Беларускі трактар МТЗ-80, які паспяхова прайшоў выпрабаванні ў амерыканскім штаце Небраска, быў занесены ў **"Чырвоную кнігу"**.

**Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя! Дзякуй за дасланыя вамі адказы. Варыянтаў рашэння прапанаванага ў мінулы раз задання вельмі шмат. Вось адно з іх, у якім 20 крокаў (лічба – гэта нумар машыны, якая пераязджае на свабоднае месца): 2- 4- 3- 6- 4- 3- 5- 1- 3- 4- 6- 5- 4- 3- 1- 4- 5- 6- 3- 2. На гэты раз білеты разыгрываліся сярод наступных удзельнікаў конкурсу. Гэта **Юрый Юхневіч, Павел Юркевіч, Ігар Сільвановіч, Аляксей Шчасны, Дзмітрый Пакладок, Павел Костачка, Павел Суман, Таццяна Ягела, Анатолій Георгіевіч Ладзята, Аляксандр Кендыш. Пашанцавала Паўлу Костачку і Паўлу Суману.**

Калі ў вас узнікла жаданне да "разумовай гімнастыкі", бярыце ў рукі аловак і займіцеся магічнымі квадратамі. Сёння - гэта матэматычная гульня, а ў старажытнасці такім квадратам прыпісвалі чароўныя якасці, адгэтуль і іх назва. Прапануем вам скласці просты магічны квадрат – 3х3. У ім трэба расставіць лікі ад 1 да 9 так, каб іх сума па ўсіх напрамках (гарызантальным, вертыкальным і дыяганальным) раўнялася 15.

Наступны крок – магічны квадрат 5х5. У ім трэба расставіць лікі ад 1 да 25 так, каб іх сума па ўсіх напрамках раўнялася 65. Больш складана скласці магічны квадрат 7х7 (лікі ад 1 да 49, сума –175), хаця матэматыкамі падлічана, што такіх квадратаў можна скласці 363916800.

Чакаю вашых адказаў да наступнага аўторка (уключна). Будуць разыграны 3 білеты.

**Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ ІМЯНІНЫ

**19 снежня**
**Праваслаўныя**: Мікалая.
**Каталіцкія**: Дарыуша, Урбана.
**20 снежня**
**Праваслаўныя**: Амбросія, Івана, Ніла, Паўла.
**Каталіцкія**: Багумілы, Дамініка, Тэафіла, Яўгена.
**21 снежня**
**Праваслаўныя**: Анфісы, Кірылы, Патапа.
**Каталіцкія**: Пятра, Тамаша, Яна.
**22 снежня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Анастаса, Сафрона, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Зянона, Францішка.
**23 снежня**
**Праваслаўныя**: Ангеліны, Івана, Міны, Сцяпана, Фамы.
**Каталіцкія**: Вікторыі, Фафіліі, Славаміра.
**24 снежня**
**Праваслаўныя**: Данілы, Нікана.
**Каталіцкія**: Евы, Эвеліны, Адама.
**26 снежня**
**Праваслаўныя**: Лукі, Аркадзя, Арсенія, Арэста, Аўксенція, Нікадзіма, Яўстрата.
**Каталіцкія**: Дзіяніза, Сцяпана.



# ЗНАЁМСТВЫ

Немец, 44/170, разведзены, дачцэ 10 гадоў, свой дом, пазнаёміцца з жанчынай 30-40/170. Herbert Pratscher. Am Schlossberg, 1, 85104 Pforring. Deutschland.

Прыемная жанчына, 62/165/70, пазнаёміцца з мужчынам з сельскай мясцовасці для сумеснага жыцця. Згодна на пераезд. 222310, Маладзечна-6, п/п ВН 0048818.

Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 42/164, прыемная знешнасць, без дзяцей. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 1125366.

Дзе ты, мой адзіны, прывабны, добры, прыстойны? Адгукніся! Цябе шукае сімпатычная, добрая, ласкавая жанчына 48/160/62, для сумеснага жыцця. 222310, Маладзечна-4, п/п 04831691.

Мужчына, 42/170/65, халасты, ёсць жыллё, без шкодных звычак. Вы – раней не былі замужам, без дзяцей і шкодных звычак. 222310, Маладзечна-6, п/п 4105706.

## Купон 51

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!
Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

 

